Телевизионные причуды стр.2

Падаравалі радасць дзецям-інвалідам ст.3

грамадска-палітычнае выданне

# Спадарожнік

г. Ганцавічы

№1(55) Пятніца, 4 студзеня 2002 г. Кошт свабодны

# Нарадзіўся новы чалавек!

Новы год стаў удвайне шчаслівым і радасным для жыхаркі горада Ганцавічы, рабочай ААТ "Харчавік" Ганны Васільеўны Боўт. 1студзеня ў 18 гадзін 20 мінут збылося жаданне шчаслівай мамы: яна нарадзіла дачушку. Гэта доўгачаканы першынец у Ганны і яе мужа, рабочага СКПД Сяргея Аляксандравіча. Падзея для сям'і адметная яшчэ тым, што іх дзяўчынка – першае дзіця, якое з'явілася на свет ў новым 2002 годзе ў Ганцавіцкім раёне. Нованароджаная мела вагу 3300 грамаў і рост 55 сантыметраў.

Радасць з'яўлення на свет новага чалавека разам з бацькамі падзялілі ўрач-акушэр Ларыса Паўлаўна Юрчанка, акушэркі Зінаіда Вікенцьеўна Цецярук, Вольга Ануфрыеўна Занька, медсястра Таццяна Іванаўна Буката, якія прымалі першыя ў новым годзе роды. Яны шчыра і ад душы павіншавалі першую матулю 2002 года са знамянальнай падзеяй у яе жыцці.

Новы чалавек – гэта новае жыццё; стала больш ганцаўчан – будзе жыць горад, будзе жыць Беларусь!

Пятро ГУЗАЕЎСКІ

Фота аўтара

• На здымку злева направа: медсястра Т.І. Буката, акушэрка В.А. Занька, шчаслівая мама Г.В.Боўт з дачушкай, акушэрка З.В. Цецярук.

Навіны

## Новы год па-ганцавіцку

Пад Новы год на Кастрычніцкай плошчы райцэнтра, як звычайна, была ўстаноўлена навагодняя ёлка, якая павінна была радаваць ганцаўчан з самым прыемным святам — Новым годам і нараджэннем Хрыстовым. І яна парадавала. Асабліва тых, хто паспеў пабываць каля яе да пяці гадзін раніцы. Пасля гэтага часу ёлка нагадвала сабой, даруйце за параўнанне, абшчыпаную курыцу.

Невядомыя хуліганы паабрывалі з яе цацкі, гірлянды, паразбівалі лямпачкі. Болей таго, што нямала здзівіла прадстаўніка мясцовай вертыкалі, які пабываў на месцы навагодняй экзекуцыі, напраду падвергласся не толькі навагодняя ёлка, але і размешчаная побач аптэка. У ёй невядомыя зламыснікі паразбівалі вокны, а на вуліцы імя В.Ф. Праскурава (зноў даруйце за параўнанне) у "дулю" былі звернуты ўсе дарожныя знакі. І гэта ў цэнтры горада! Куды ж глядзела наша "доблесная" міліцыя, якая павінна была несці службу ў месцах масавага адпачынку людзей?

## Незвычайнае паляванне

Жыхару вёскі В. Круговічы могуць пазайздросціць не толькі паляўнічыя, але бегуны-спрынтэры.

27 снежня Міхал Кісялевіч, слесар жывёлагадоўчага комплексу СКП "Парыжская камуна" вяртаўся з працы дадому і заўважыў на полі рыжую лісу.

І тут спрацаваў паляўнічы азарт, які, відаць, застаўся ад нашых далёкіх продкаў. Замест зброі пад рукой аказаўся... жалезны лом. І Міхал, нягледзячы на глыбокі снег, кінуўся ў пагоню. У спрытнасці і хуткасці ліса яўна ўступала слесару, і ўрэшце гэта стала для яе апошняй прабежкай. А Міхал прынёс дамоў навагодні падарунак – прыгожае футра.

## Ганцавічы ў лічбах

Сярэдняя заработная плата па раёне ў лістападзе 2001 года склала 90519 рублёў.

У тым ліку: у прамысловасці — 94931 рубель, у сельскай гаспадарцы — 53755. Калгаснікі атрымалі 50193 рублі, будаўнікі — 100951. У галіне фінансаў, крэдытаў і страхавання заробак склаў 204167рублёў, у сферы банкаўскай дзейнасці —189546 рублёў. Супрацоўнікі органаў дзяржаўнага кіравання атрымалі 126060 рублёў, падатковай інспекцыі — 149067.

Запазычанасць па заработнай плаце на 21 снежня 2001 г. склала ў калгасах 523381 рубель.

Колькасць насельніцтва за гэты перыяд была 36,2 тыс. чалавек, у тым ліку гарадскога — 14,9 тысяч, сельскага — 21,3 тысяч.

Аддзел інфармацыі

# С Рождеством Христовым!

Уважаемые жители г. Ганцевичи и района, дорогие братья и сестры.

С духовной радостью поздравляю вас с Новым годом и с праздником Рождества Христова. Прежде всего хочется призвать всех вас к миру, любви, уважению, взаимопониманию и к самому главному — жить в вере православной, быть преданным своему Отечеству, с уважением относиться к правительству, руководству и наставникам.

Господь наш Иисус Христос пришел в этот грешный мир спасти нас от греха, проклятия и смерти. Его подвиг был добровольным ради нашего спасения. Бог так возлюбил мир, что пришел к нам в уничижении и простоте, дабы указать нам честный путь в жизни, любить бедных и нищих. По воле Божией именно о Рождении Христа раньше всех узнали простые пастухи. Этим самым Бог нам указывает и призывает быть простыми, не стремиться к богатству и роскоши, хранить себя от распутства и беззакония, стремиться к добру и милосердию. По примеру волхвов, которые пришли из дальних стран, чтобы поклониться новорожденному спасителю мира, и принесли Ему дары, мы постараемся со своей стороны принести ему дары доброй и благочестивой жизни, заботиться о воспитании своих детей, хранить их от соблазнов мира сего, которые со страшной быстротой внедряются в нашу жизнь.

Поэтому, вступая в новый 2002 год, чтобы возродить нашу веру и жизнь духовную, постараемся принять участие в нашем общем деле завершения строительства нашего нового Храма. Это будет настоящий дар, принесенный новорожденному Богомладенцу Христу. Ибо украшая свой Храм, мы этим самым и украсим свою жизнь и свои души, чтобы потом явиться перед Богом обновленными и просветленными.

Еще раз поздравляю вас с Новым годом и Рождеством Христовым!

**Благочинный церквей Ганцевичского округа настоятель Свято-Тихоновской церкви г. Ганцевичи священник ПЕТР ПИЛИПЧУК.**

Р/с 3015005470021 в филиале № 107 АСБ "Беларусбанк", код 619 на строительство храма.

## Шаноўныя чытачы!

Усяго некалькі дзён нам было адведзена ў мінулым годзе на падпісную кампанію. Тэрмін да таго малы, што многія з вас не паспелі падпісацца на "Спадарожнік". Не расчароўвайцеся ! Вы можаце атрымліваць нашу газету з 1 лютага 2002 года, калі ўжо цяпер або на працягу студзеня аформіце падпіску на "Спадарожнік" у любым паштовым аддзяленні раёна.

У нас самая танная падпісная цана:

На месяц—796 руб.

На два месяцы да канца квартала —1592 руб.

На другі квартал —2388 руб.

З лютага па чэрвень —4980 руб.

Выпісвайце і чытайце "Спадарожнік" - газету пра вас і для вас!

Рэдакцыі газеты «Спадарожнік» патрабуюцца грамадскія распаўсюджвальнікі.
Тэл. для даведак: 2-14-50

Прогноз погоды на 4 Января 2002

Полоцк -20 -23; Витебск -18 -20; Гродно -15 -18; Минск -15 -19; Могилев -16 -19; Барановичи -16 -14; Бобруйск -14 -17; Ганцевичи -13 -15; Брест -13 -15; Гомель -12 -15

## Синоптики сообщают:

| | 5 января | | 6 января | | 7 января | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | ночь | день | ночь | день | ночь | день |
| t,°C | -13 | - 7 | -2 | 0 | -10 | -3 |
| Q, * | 5 | - 7 | -11 | -3 | 7 | 5 |
| v, м/с | 1 | 5 | 5 | 3 | 0 | 1 |

| | 8 января | | 9 января | | 10 января | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | ночь | день | ночь | день | ночь | день |
| t,°C | -3 | 0 | -1 | 0 | 0 | 0 |
| Q, * | 0 | -1 | 1 | -2 | -2 | 0 |
| v, м/с | 2 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |

* тенденция давления - это разница между значениями давления в текущий срок и сутки назад, в мм рт.ст.

Есть проблема!

# Телевизионные причуды

В наш электронный век радио и телевидение являются основным и самым доступным для каждого источником оперативной информации. Смелость оспаривать эту очевидную истину возьмут на себя разве что люди недалёкие и безразличные ко всему. Остальным же информация — свежая, злободневная, всеобъемлющая и интересная - нужна, как воздух. К сожалению, получать ее в полном объеме вот уже около десяти лет лишены многие жители юго-восточной части г. Ганцевичи (улицы Парковая, Толстого, Маяковского, Горького, переулка Паркового и др.).

Все дело в том, что во время трансляции канала ОРТ с 8.00 до 17.00 на экранах телевизоров возникают невообразимые помехи и смотреть передачи становится практически невозможным. И, о парадокс, — после окончания рабочего времени, а также в выходные и праздничные дни ОРТ "пашет" на все 100 процентов.

Поначалу помехи на телеэкране люди связывали с вводом в эксплуатацию РЛС (радиолокационной станции) космического наблюдения в Машуках. Но вскоре эти предположения отпали: РЛС находится на боевом дежурстве круглосуточно, а, значит, и помехи, излучаемые ею, должны быть постоянными. Если не военные, то кто же?

Поиски "вредителя" телеэфира привели в Ганцевичское коммунальное унитарное производственное предприятие "Модуль", которое установило у себя высокочастотные станки без надлежащей защиты.

С просьбой помочь нормально смотреть телевизор и призвать к порядку руководителей "Модуля" жители вышеназванных улиц неоднократно обращались в райисполком, писали письма в Брест. Но безуспешно.

И вот в декабре минувшего года лед, похоже, тронулся. Бесконечные призывы о помощи были услышаны. 18 декабря в Ганцевичи прибыли специалисты Республиканского унитарного предприятия по надзору за электросвязью "БелГИЭ" по Брестской области. Они установили, что "источником помех приему программы ОРТ, транслируемой радиотелевизионной передающей станцией "Новая стража" Гродненской области по 12-частотному телеканалу являются... высокочастотные станки, Ганцевичского коммунального производственного предприятия "Модуль". Далее господин Ходько начальник "БелГИЭ" сообщает, что директору КУПП "Модуль" Э. И. Бураковскому дано предписание оборудовать станки надежной защитой. Надо ли уточнять, что качество изображения после этого предписания ничуть не улучшилось. Помехи как были, так и остались.



Жители юго-восточной части города Ганцевичи восприняли ответ из Бреста как очередную отписку. "Модуль" как создавал, так и продолжает создавать телепомехи. "Телевизионные причуды" продолжаются. А между тем доведенные до отчаяния люди грозятся разрушить производственные цеха предприятия-вредителя. И это не элементарное запугивание, а ответ на бездействия ответственно-безответственных должностных лиц.

От имени телезрителей

Павел САЙКО

Паслясловуе да свята

• Дзеду Марозу ў санях не ў навіну

# Но, пайшла, залётная!

Прыемны сюрпрыз напярэдадні Новага года атрымалі дзеці калгаснікаў СКП "Парыжская камуна".

На запрэжаным ў сані кані, пад звон бубенчыка, навагоднія падарункі ім прывезлі Дзед Мароз і Снягурачка прама дадому. Парадаваць дзяцей такім чынам вырашыў старшыня СКП "Парыжская камуна" Андрэй Мікалаевіч Пісарык. Аб'ехаць усе вёскі змаглі толькі за два дні, бо некаторыя з іх знаходзяцца на адлегласці 15 кіламетраў адна ад адной. У першы дзень прыйшлося замяніць сані: на замеценых дарогах паламалі аглоблю. Здаецца, дробязь, але прыемная, бо радаваліся не толькі дзеці , але і дарослыя.

# Незразумелая пазіцыя

27 снежня 2001 года адбылася 16-я сесія Ганцавіцкага раённага Савета дэпутатаў 23-га склікання. На ёй былі разгледжаны надзвычай актуальныя пытанні — "Аб чакаемым выкананні прагнозу сацыяльна-эканамічага развіцця раёна за 2001 год і прагнозе сацыяльна-эканамічнага развіцця на 2002 год", "Аб бюджэце раёна на 2002 год". З дакладамі па вышэй адзначаных пытаннях выступілі старшыня райвыканкама У. Столяр і загадчыца райфінаддзела А. Валасюк.

Бюджэт раёна — гэта своеасаблівы план, па якому будзе развівацца раён у новым годзе і пабудаваны на канкрэтнай фінансавай аснове. Ад яго ў значнай, ступені залежыць і далейшае развіццё вытворчасці, і нашы заробкі, і, урэшце, дабрабыт людзей. Таму, зразумела, ён датычыцца кожнага з нас і цікавіць усіх.

У якім жа аб'ёме запланаваны бюджэт раёна на 2002 год? З гэтым пытаннем наш карэспандэнт вырашыў звярнуцца да асобы дасведчанай і кампетэнтнай — намесніка старшыні, загадчыка аддзела па эканоміцы і рыначных адносінах райвыканкама Леаніда Купрыяновіча. І што вы думаеце? Леанід Мацвеевіч наадрэз адмовіўся даваць якія-небудзь тлумачэнні. Спужалася гэтага простага пытання і адмовілася адказваць нам і загадчыца фінаддзела райвыканкама Ала Валасюк.

Такая незразумелая пазіцыя адказных работнікаў мясцовай вертыкалі вымушае нас думаць, што на сесіі райсавета быў зацверджаны не бюджэт раёна, а нейкі звышсакрэтны дакумент, які захоўвае надзвычайную дзяржаўную тайну. Калі не, то навошта сёння ўтойваць ад людзей тое, што заўтра стане відавочным?

Васіль РУДНЯНСКІ

# Калі водпуск не радуе

12 снежня мінулага года пайшла ў чарговы працоўны адпачынак загадчыца склада гаруча-змазачных матэрыялаў калгаса "Бальшавік" Людміла Паўлоўская. Заяву на заслужаны водпуск ёй падпісаў сам старшыня гаспадаркі М. І. Новік.

Расчараванне чакала Паўлоўскую праз тыдзень, калі яна звярнулася ў калгасную бухгалтэрыю за разлікам. Грошай няма і не прадбачыцца. «Адпачывай за свой кошт», — парадавалі яе ў бухгалтэрыі. Такому навагодняму падарунку, вядома, Людміла Міхайлаўна не ўзрадавалася і шукае праўды ў нас.

Пытанне аплочваемых водпускаў хвалюе не толькі гэтую жанчыну, але таксама іншых работнікаў машынна-трактарнага парка калгаса "Бальшавік", якія збіраюцца ў адпачынак. Нікому з іх у прымусовым парадку не хочацца адпачываць за свой кошт.

Наогул, фінансавае становішча названай гаспадаркі крытычнае: на рахунку патэнцыяльнага банкрута — ні капейкі...

## Цены на продукты на рынках (в руб.)

| | Барановичи | Ганцевичи | Ляховичи |
|---|---|---|---|
| Сало | 2600-3200 | 3400 | 3200 |
| Окорочка | 2500-2600 | 2600 | 2500 |
| Масло раст. | 1350 -1800 | 1400-1800 | 1500-1800 |
| Чеснок | 2300 | 2500 | 2500 |
| Лук | 500 | 350 | 400 |
| Яблоки | 900 | 850 | 450-550 |
| Апельсины | 1500-1800 | 1500-1900 | 2000 |
| Мандарины | 1700-2300 | 1900-1950 | 2100 |
| Бананы | 1200 | 1200 | 1200 |
| Лимоны | 1700 | 1600-1900 | 2000 |
| Киви (1шт.) | 300 | 300 | 400 |
| Виноград | 3400-3800 | 1950 | 2000-3500 |
| Хурма | 1800-2800 | 3500 | 2000-3000 |
| Гречка | 480 | 500 | 600 |
| Горох | 500 | 450 | 450 |
| Пшено | 350 | 340 | 520 |
| Сахар | 680 | 680 | 700 |
| Мука в/с | 450 | 430 | 525 |

## «Есть контакт!»

**Если у вас имеется «горячая» информация, интересные новости, вопросы и предложения, если вы хотите высказать свои претензии и дать полезный совет, звоните нам.**

**Во вторник, 8 января, с 16.00 до 18.00 на ваши звонки отвечает заместитель главного редактора Константин МОХОР**

**Наш контактный телефон: 2-14-50**

## Горожане отвечают

**Как Вы провели новогоднюю ночь?**



**Виталий Матулис:**

- В компании друзей. Мы закупили продукты, и потом оказалось, что денег хватило только на два «пузыря», и это на 7 человек.



**Алесандр Бабулин, курсант военно-транспортного университета:**

- Ничего интересного не было. Очень скучно на елке и на дискотеке. Я в Питере учусь, там в будние дни интереснее. Единственная радость, что встретил друзей.



**Валерия Юдицкайте, учащаяся 10 класса в гимназии:**

- Как обычно, встретила дома с родителями. Выпила два бокала шампанского. Была трезвая. Затем дискотека на ПМК.



**Елена Берташ, учитель биологии в Начской СШ:**

- Я Новый год не люблю. Дома отмечала, сходила к клуб на танцы и - домой.



**Александр Дулик, рабочий завода «Пищевик»:**

- Встретил в семейном кругу. Сходили на елку. В прошлые годы было интереснее.

Беседовал Петр ГУЗАЕВСКИЙ
Фото автора

Міласэрнасць

# Падаравалі радасць дзецям-інвалідам

**27 снежня ў памяшканні музычнай школы адбыўся навагодні ранішнік для дзяцей-інвалідаў.**

Актыўны ўдзел у падрыхтоўцы і правядзенні мерапрыемства прынялі аддзел райвыканкама па справах моладзі, дзіцячая раённая бібліятэка, РЦДЮТ (раённы цэнтр дзіцячай і юнацкай творчасці) і бацькі дзяцей-інвалідаў. Нягледзячы на тое, што месца для правядзення свята знаходзілася на ўскраіне горада, зала, якая змяшчае 300 чалавек,была амаль поўная.

Дзецям асабліва спадабалася прадстаўленне лялечнага тэатра дзіцячай раённай бібліятэкі і, канечне, Дзед Мароз і Снягурачка, якія кожнаму дзіцяці прынеслі падарункі. Прыемны сюрпрыз прыпаднесла ўсім ініцыятыўная група "Агеньчык надзеі", якую стварылі бацькі дзяцей-інвалідаў. Пры падтрымцы спонсараў кожнае дзіця ў якасці падарунка атрымала мяккую цацку.

Як паведаміў нам загадчык аддзела райвыканкама па справах моладзі Уладзімір Дзям'янавіч Бужан, падобныя мерапрыемствы праводзяцца з 1996 года. «Кожны год спрабуем палепшыць праграму, месца і формы правядзення свята, каб усім было цікава, - дадаў Уладзімір Дзям'янавіч. - Вядома ж, на правядзенне такіх мерапрыемстваў патрэбны сродкі. На навагодні ранішнік дзецям-інвалідам кожны год выдзяляюцца грошы з мясцовага бюджэту. На цяперашняе мерапрыемства было выдаткавана 200 тысяч рублёў. Цукеркі, прызы куплены на гэтыя грошы і частку зака-


Фота Пятра ГУЗАЕЎСКАГА

• На жаль, усмешкі на тварах гэтых дзяцей можна ўбачыць не часта

номленых ад іншых мерапрыемстваў — каля 300 тысяч рублёў. Дапамаглі таксама спонсары. Мы разаслалі каля 20-ці пісьмаў арганізацыям і прадпрыемствам аб аказанні матэрыяльнай дапамогі на правядзенне свята. Шкада, што адгукнуліся толькі два — ДРСУ-100 і сумеснае беларуска-польскае прадпрыемства"Хастэ-Ганцавічы".

Добрую ацэнку навагодняму ранішніку далі бацькі, якія з дзецьмі прысутнічалі ў зале. Па словах Вольгі Пракоф'еўны Шэмет з вёскі Люсіна, ім трэба збірацца часцей: гэта ідзе на карысць дзецям і бацькам, якія не маюць іншай магчымасці мець зносіны паміж сабой. І тое, што будзе створана грамадская арганізацыя дзяцей-інвалідаў і іх бацькоў "Агеньчык надзеі", паспрыяе сумеснаму вырашэнню розных праблем, якія паасобку вырашыць проста немагчыма. А арганізатарам свята хочацца шчыра падзякаваць за падораны дзецям добры настрой.

Прыемна адзначыць, што не засталіся без падарункаў дзеці, якія па стану здароўя ніколі не мелі магчымасці наведаць такія мерапрыемствы. Дзякуючы Тацяне Гайцюкевіч і Жанне Коўш, якія адклалі свае хатнія справы і наведалі ўсе вёскі раёна, дзе ёсць дзеці-інваліды, падарункі ўручылі Дзед Мароз і Снягурачка.

Пятро ГУЗАЕЎСКІ

Адваротная сувязь

# Будзем яднацца

На прамую лінію карэспандэнцкага пункта газеты "Спадарожнік " патэлефанаваў мужчына, які прадставіўся Аляксандрам Уладзіміравічам, і задаў пытанне: "Чаму, не запытаўшы ў людзей, кіраўніцтва хоча далучыць вёскі Малыя і Вялікія Круговічы да Нацкага сельскага савета?"

Каб даведацца, у чым тут справа, і знайсці адказ на пытанне, тым больш, што гэта быў не адзіны званок, наш карэспандэнт па тэлефоне папрасіў растлумачыць сітуацыю старшыням выканкамаў Нацкага і Агарэвіцкага сельскіх Саветаў.

Валянціна Мікалаеўна Супрун, старшыня Агарэвіцкага сельскага Савета, растлумачыла, што, сапраўды, такія размовы вядуцца, але гэта пытанне толькі на стадыі распрацовак і без узгаднення на рэспубліканскім узроўні раённыя і нават абласныя ўлады яго не вырашаць. На пачатку года будзе аб'езд вёсак з інфармацыйнай групай райвыканкама, там жыхары могуць задаць гэта пытанне раённаму кіраўніцтву.

Старшыня Нацкага сельсавета запэўніла, што сітуацыю сапраўды патрэбна мяняць, так як вёскі Вялікія і Малыя Круговічы знаходзяцца на тэрыторыі Агарэвіцкага сельсавета, а ўваходзяць у склад СКП "Парыжская камуна", што месціцца на тэрыторыі Нацкага сельсавета. Адсюль узнікаюць праблемы, што значна ўскладняе працу нават пры зборы інфармацыі аб здачы дзяржаве насельніцтвам малака і мяса.

Безумоўна, галоўны фактар, канечне, людзі, і толькі іх воля павінна адыграць рашаючую ролю ў вырашэнні такога пытання. Каб жыхары гэтых вёсак маглі дабірацца па справах у сельскі Савет, мяркуецца, што два разы на тыдзень будзе прадугледжаны маршрут праз Круговічы ў Начу.

Пятро ГУЗАЕЎСКІ

# Словарь школяра

Дневник – ужасы этого дня.
Записка с урока – освобождение под залог.
Кабинет директора – картер.
Медпункт – мама, мама, мамуля... а-а-а-а..!
Отличник – ходячий справочник.
Парта —запасная тетрадь ученика.
Перемена – тюремная прогулка.
Столовая – псарня.
Указка – меч горца.
Урок географии – путешествие на халяву.
Урок истории – 45 минут революции.
Урок музыки – угадай мелодию.
Урок химии – изобретаем бомбу.
Урок пения – старые песни о главном.
Школьный туалет – дом отдыха.
Школьный буфет – операция Ы.
Школьный двор – улица разбитых фонарей.
Школьный журнал – список заключенных.
Шпаргалка – путевка в рай.

Собрал Андрей МАКАРЕВИЧ, ученик 6 класса СШ №2



ЯНВАРЬ

| Пн | Вт | Ср | Чт | Пт | Сб | Вс |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
| 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 |
| 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 |
| 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 |
| 28 | 29 | 30 | 31 | | | |

ФЕВРАЛЬ

| Пн | Вт | Ср | Чт | Пт | Сб | Вс |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | 1 | 2 | 3 |
| 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 |
| 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 |
| 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 |
| 25 | 26 | 27 | 28 | | | |

МАРТ

| Пн | Вт | Ср | Чт | Пт | Сб | Вс |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | 1 | 2 | 3 |
| 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 |
| 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 |
| 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 |
| 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 | 31 |

АПРЕЛЬ

| Пн | Вт | Ср | Чт | Пт | Сб | Вс |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 |
| 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 |
| 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 |
| 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 |
| 29 | 30 | | | | | |

МАЙ

| Пн | Вт | Ср | Чт | Пт | Сб | Вс |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
| 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
| 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 |
| 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 |
| 27 | 28 | 29 | 30 | 31 | | |

ИЮНЬ

| Пн | Вт | Ср | Чт | Пт | Сб | Вс |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | 1 | 2 |
| 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 |
| 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 |
| 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 |
| 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 |

ИЮЛЬ

| Пн | Вт | Ср | Чт | Пт | Сб | Вс |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 |
| 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 |
| 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 |
| 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 |
| 29 | 30 | 31 | | | | |

АВГУСТ

| Пн | Вт | Ср | Чт | Пт | Сб | Вс |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 1 | 2 | 3 | 4 |
| 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 |
| 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 |
| 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 |
| 26 | 27 | 28 | 29 | 30 | 31 | |

СЕНТЯБРЬ

| Пн | Вт | Ср | Чт | Пт | Сб | Вс |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | 1 |
| 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 |
| 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 |
| 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 |
| 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 |
| 30 | | | | | | |

ОКТЯБРЬ

| Пн | Вт | Ср | Чт | Пт | Сб | Вс |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
| 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 |
| 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 |
| 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 |
| 28 | 29 | 30 | 31 | | | |

НОЯБРЬ

| Пн | Вт | Ср | Чт | Пт | Сб | Вс |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | 1 | 2 | 3 |
| 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 |
| 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 |
| 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 |
| 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 | |

ДЕКАБРЬ

| Пн | Вт | Ср | Чт | Пт | Сб | Вс |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | 1 |
| 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 |
| 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 |
| 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 |
| 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 |
| 30 | 31 | | | | | |

Рабочие дни перенесены: со среды 2 января на субботу 5 января; с пятницы 10 мая на субботу 18 мая; с понедельника 13 мая на субботу 25 мая; с пятницы 8 ноября на субботу 16 ноября.

# Примите поздравления!

Дорогая подружка Светлана ДУБИНА!
Всех благ тебе земных желаю
и с Днем рожденья поздравляю.

*Будь всегда хорошей, будь всегда красивой,*
*Будь всегда веселой, доброй, славной, милой.*
*С горем не встречайся и не будь унылой,*
*Чаще улыбайся, словом, будь счастливой!*

**Зоя Бобко**

**Галина Ивановна ВАЙТЕШИК,** поздравляем Вас с Днем рождения!

*Аромат всех цветов*
*И румянец зари*
*Мы готовы тебе*
*В этот день подарить.*
*Все, что светлого есть*
*И большого в судьбе,*
*Мы от чистого сердца желаем тебе.*

**От влюбленных мужчин**

**Софья Антоновна ЦЫБУЛЬКО!**
От всей души и чистого сердца поздравляем вас с 70-летием. Желаем мира, счастья, добра и крепкого здоровья.

*Сегодня, в этот славный юбилей,*
*Пусть тень годов не отразится болью,*
*Желаем светлых в жизни дней,*
*Большого счастья, крепкого здоровья.*

**Галя, Вася, Саша, Ира**
**и все родственники**

**Наталья ЗБРОДОВА,** поздравляю тебя с Днем рождения. Желаю быть такой же милой и красивой, любить и быть всегда любимой.

*Будь, дорогая, всегда энергичной,*
*Дома, в работе и в личных делах.*
*Жизнь пусть течет в настроении отличном.*
*В денежном море, в любви и цветах.*

**Подруга Зоя**

**Галина Ивановна и**
**Александр Васильевич КОВШ,**
Поздравляем вас с Днем рождения!

*Пусть в этот день весенний лучами*
*Вам улыбнутся люди и цветы,*
*И пусть всегда идут по жизни с Вами*
*Любовь, здоровье, счастье и мечты.*

**Муж и отец Василий,**
**дочь и сестра Ирина, родные**

**Таня ГУЛЬЕВА,**
поздравляю тебя с Новым годом.

*Пусть этот год, в который ты вступаешь,*
*Счастливым годом в жизнь твою войдет.*
*И все хорошее, о чем сейчас мечтаешь,*
*Пусть сбудется и пусть произойдет.*

**Твой Виталий**

## Правила подачи частных объявлений в газету «Спадарожнік»

**Частные объявления в газету «Спадарожнік» принимаются на купонах, вырезанных из газеты «Спадарожнік».**

**Один купон должен содержать одно объявление в одну рубрику. При заполнении каждая буква вносится в отдельную клеточку, между словами пропускается по одной клетке.**

**Неразборчиво заполненные купоны не рассматриваются и не возвращаются.**

**Купоны принимаются по адресу: 225440 г.Ганцевичи, ул. Заслонова, 4**

### Купон для частного бесплатного объявления

РУБРИКИ: ☐ ПРОДАМ ☐ МЕНЯЮ ☐ КУПЛЮ ☐ УСЛУГИ ☐ ЗНАКОМСТВА ☐ РАЗНОЕ ☐ Дата выхода

Текст писать разборчиво, печатными буквами

Сведения не для печати:

Ф.И.О. ______

АДРЕС: ______

д. ______ кв. ______

ТЕЛЕФОН ______ « » ______ 200 —

**ДЕЙСТВИТЕЛЕН с 5.01.2002 г. по 18.01.2002 г.**

## Частные объявления

**Продам:**

❖Недорого, новый матрац, размер: 1400x2000 см. **Тел. 2-78-78.** (Инна.)

❖Документы на «УАЗ-452» (санитарный). **Тел.** в г. Барановичи: 48-02-41.

❖Недостроенный дом, 6x9, участок 17 соток в д. Приозерное. **Тел.** в г.Барановичи: 41-77-28.

❖ Полубрус 14 см, 12 см, длина 8-10м, доска 40 см необрезная, рубероид - 12 катушек. **Тел. 58-2-21.**

❖Прицеп к мотоблоку, новый. **Тел.58-2-21.**

❖Стиральную машину-автомат, б/у. **Тел.** в г.Барановичи: 44-09-30.

**Ищу работу:**

❖ Водитель с м/а. **Тел.** в г.Барановичи: 40-89-81.

**Куплю:**

❖ «Москвич», желательно «пикап». **Тел.** 2-14-50.

## Прогноз для знаков Зодиака 7.01.2002 г. - 14.01.2002 г.

**Овен.** Вы много работали и по праву заслужили полноценный отдых. Старайтесь не искать немедленных перемен, прислушайтесь даже к сонному голосу своей интуиции. Если Вы в эмоциональном порыве не скажете что-то лишнее, то у Вас может возникнуть хороший шанс для служебного роста.

**Телец.** Четверг и пятница - почти идеальные дни для того, чтобы заняться подготовкой и реализацией серьезных планов. Особенно интересные идеи Вас могут посетить в пятницу, постарайтесь записать их, чтобы не упустить из виду так необходимые, а с первого взгляда незначительные детали. К концу недели придет ощущение спокойствия и гармонии.

**Близнецы.** Вам необходимо вооружиться фантазией и творчески реализовать свои замыслы.На этой неделе Вы - лидер, и это ощутимо поможет Вам добиться своего. Неделя богата событиями, позволяет запастись интересными впечатлениями и способствует созиданию любых планов. Не забывайте о своих родственниках, загляните к ним в гости хотя бы на полчаса.

**Рак.** Вторая половина недели - хорошее время для решения многих вопросов мирным путем, вероятен компромисс без ущерба Ваших интересов. Возможно принятие позитивных решений, которые определят Ваше ближайшее будущее, постарайтесь быть решительным и принципиальным.

**Лев.** Старый год был хорошим годом, но он эмоционально вымотал Вас. Постарайтесь сделать те дела, которые у Вас порядком поднакопились. Работа попытается занять достаточно много времени, но по значимости она лидировать не будет. Своей энергичностью и активностью Вы сможете укрепить свои позиции. Не забывайте о своем доме, наведение порядка и создание комфорта в нем - тоже немаловажная для Вас задача.

**Дева.** Постарайтесь, несмотря на оптимистический настрой, реально оценить свои силы и не перегружать себя лишними заботами и хлопотами. Эта неделя удачна почти во всех Ваших начинаниях, стоит только максимально использовать благоприятное время. Ваши идеи во многом повлияют на будущие перспективы.

**Весы.** Вам не помешает обновление впечатлений, посетите интересную выставку, загляните на вечеринку, приобретите билет на концерт, и Вы не пожалеете об этом. Оставьте для себя хоть немного свободного времени и насладитесь этим.

**Скорпион.** Желательно постараться распланировать эту неделю, иначе она будет чрезмерно хаотичной. Начиная с пятницы, есть вероятность поступления ценной для Вас информации, может быть, даже из совершенно неожиданного источника. Пятница - благоприятный день для завершения незаконченных и отложенных в долгий ящик дел.

**Стрелец.** Вы и так редко бываете дома, доставьте радость близким людям. Постарайтесь объективно оценить себя, не занижайте свою самооценку. Проявите свою исполнительность и доделайте необходимые и значимые дела. Ваши успехи будут замечены и вознаграждены начальством. В субботу вы почерпнете много интересной и полезной информации и интересно проведете время.

**Козерог.** Эта неделя позволит укрепить позиции на службе и в бизнесе. Не забывайте о горячо любимом доме. Может быть, стоило задуматься хотя бы о незначительном ремонте, конечно, если это Вам по силам. Постарайтесь выкроить немного времени, чтобы пообщаться с родными или выбраться куда-нибудь вместе с ними.

**Водолей.** Постарайтесь управлять своим эмоциональным состоянием, чтобы оно не стало разрушительным для окружающих. Сейчас время для подведения определенных итогов и решения старых проблем, а не для начинания нового.

**Рыбы.** Постарайтесь привести Ваши мысли и чувства в порядок. Время для налаживания утраченных связей, которые Вам пригодятся в ближайшем будущем. Не забывайте о друзьях и дальних родственниках. Вам легко удастся наладить с ними хорошие взаимоотношения.

Індэкс: 63526 - інд. падпіска. Аб'ём: 1 ум. друк. аркуш.
Адрас рэдакцыі: 225320 г. Баранавічы, вул. Жукава 12/3-48.
Карэспандэнцкі пункт у Ганцавічах: 225440 вул. Заслонава,4. Тэл. 2-14-50
Для лістоў: 225440 г.Ганцавічы-2 а/с 15

**Галоўны рэдактар Алег ПАНАМАРОЎ**
**Намеснікі галоўнага рэдактара: Канстанцін МОХАР, Пётр ГУЗАЕЎСКІ**
Рукапісы і здымкі не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца. Адказнасць за дакладнасць друкуемых фактаў і падзей нясуць аўтары. Выказаныя ў дасланых матэрыялах думкі могуць не супадаць з пунктам гледжання рэдакцыі газеты і не накладаюць на яе ніякіх абавязкаў. Адказнасць за змест рэкламы нясуць рэкламадаўцы.
Надрукавана ў РУВП "Баранавіцкая ўзбуйнёная друкарня", па адрасу: вул. Савецкая, 80
Падпісана ў друк 3.01.2002 г. у 16.00. Зак.13 Тыраж 1000 экз.

**Заснавальнік і выдавец Янукевіч Уладзімір Аляксандравіч**
Пасведчанне аб рэгістрацыі N 1416 ад 30 снежня 1999 г.